

№ 36 (197)
Верасень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



# Вясельныя традыцыі беларусаў



Пер... пачатку XX ст...

*Наш бык да вашай*
*цялушкі прывык.*
*Каб даў Бог даждаці*
*Ды іх павянчаці,*
*І вяселле згуляці.*

Традыцыі фарміруюць характар этнасу, яго непаўторныя рысы. Праца, побыт, мараль – усе бакі жыцця чалавека і нават яго будучыня залежаць ад традыцый. Менавіта яны з'яўляюцца асновай культуры народа, нябачнай повяззю многіх пакаленняў. Напачатку абрады мелі магічныя і засцерагальныя функцыі, а з часам набылі эстэтычна-мастацкую ролю.

На Беларусі падрыхтоўчым перыядам да вяселля з'яўляюцца абрадава-песенныя, рытуальныя дзеянні, калі ўсё робіцца дзеля добрага настрою і на шчаслівы шлюб маладых. Яго называюць своеасаблівай операй народнай мудрасці і таленту.

*Брат сястру на пасаг вядзе,*
*Ручніком сцежку мяце,*
*Шоўкам засцілае,*
*Золатам пасыпае.*

Вяселле мела некалькі этапаў: агледзіны, сватанне, заручыны, «зборная субота», ад'езд маладога па нявесту, а пасля ў жаніха і нявесты – застолле, расплятанне касы, «злучэнне» маладых і інш. Гэта выпрацаваны стагоддзямі рытуал, у якім кожны ўдзельнік выконваў пэўную ролю, не ўмоўную, як у тэатры, а сапраўдную.

У час заручын радня маладога, сваты, дружкі прыходзілі ў хату да маладой, каб прасіць згоды на шлюб і дамовіцца аб вяселлі. На ролю свата выбіралі вясёлага, гаваркога і паважанага чалавека, які далей вёў вясельны рэй.

*Заручылі Марусельку*
*ды за Ванечку.*
*Павязець Марусечку*
*да сваёй мамулечкі.*

*Паглядзі, мамулечка,*
*ці красіва будзець Марусечка?*
*Ёсць і ручкі, і ножкі.*
*Будзе каму памыць міскі.*

А на «зборную суботу» дружкі выконвалі рытуал віцця вянка для нявесты. Гэта развітанне маладой са сваімі сяброўкамі, апошні вечар яе дзявоцтва.

*Блаславі, Божа, вянок віці,*
*Нашым маладым доўга жыці.*
*І з суботы да нядзелькі,*
*З нядзелькі на весь век.*

У гэты вечар маладую садзілі на «пасад» (дзяжу, пакрытую вывернутым кажухом), расчэсвалі ёй валасы і ў апошні раз запляталі касу, якую потым распляталі ў нядзелю, перад вянчаннем.

Хлеб, зерне, дзяжа з'яўляюцца кампанентамі амаль усіх рытуалаў беларускага вяселля.

*Выйду на вулачку,*
*Стану на грудочку,*
*Гукну я да радочку:*
*Сыйдзіся, мой радочку,*
*Вяселле пачынаці,*
*каравай учыняці.*

Кожнаму этапу прыгатавання каравая папярэднічаў традыцыйны зварот:

*Сам Бог каравай месіць,*
*Прачыстая свяціць,*
*Ангелы ваду носяць,*
*Хрыстос прыступае,*
*Хустою накрывае.*

Пасля прыгатавання каравую ваду, у якой мылі рукі, вылівалі ў агарод, на поле, у сад, каб радзілі гародніна, садавіна, збожжа.

На вяселлі ў маладога і маладой – застолле, песні, танцы і мудрыя словы, жарты:

*Казалі, наш сват харош,*
*Аж у яго доўгі нос,*
*Каб насыпаў канапель,*
*Дык кляваў бы як верабей.*

Свашка да свата:

*Нямыты сваток!*
*Памыем яго кісяльком,*
*Паголім яго памялом,*
*Пасадзім яго пад сталом,*
*Хай сядзіць і глядзіць.*

Ну і якое ж вяселле без падарункаў (называюць яшчэ перапой), але кожны, дарачы, выказваў свае пажаданні:

*Вось табе, маладзы, мехавыя*
*рукавіцы, каб не лапаў*
*рукамі чужой маладзіцы.*
*Даю хлеба акрайчык, каб*
*нарадзіўся сын Мікалайчык.*
*Даю табе дваццацьпятку,*
*каб цалаваў маладую*
*ў пятку.*
*Дару куру-квактуху,*
*каб маладая паважала*
*свякруху.*
*Даю хлеб духмяны,*
*каб маладзы не быў п'яны.*
*Табе, маладая, качан капусты,*
*каб не давала маладому*
*распусты.*
*Дару ніткі,*
*каб маладзы не заглядаў*
*на чужыя лыткі.*
*Вось вам белы гусь, каб*
*былі вядомыя на ўсю*
*Беларусь!*

Сучасныя вясельныя абрады маюць шмат народных звычаяў, ёсць элементы дарэння, сустрэчы маладых з караваем і мядком, каб жыццё было з саладком, танцамі і песнямі.

**Чыстага кахання, доўгага сумеснага жыцця маладым жадаем і мы.**

Мікола КОТАЎ,
фалькларыст



...і ў кан... стагоддзя – распісванне ў ЗАГСе



Нацыянальная бібліятэка Беларусі шырока і гучна адзначыла свой **85-гадовы юбілей**, які яна святкуе ў новых умовах існавання: новы будынак, новыя задачы, новыя перспектывы ў навуковай і асветніцкай справе.

*«Краязнаўчая газета», Беларускі фонд культуры віншуюць нашу Галоўную бібліятэку са знамянальнай датай і жадаюць яе калектыву поспехаў у высакароднай бібліятэчнай справе.*

## На тым тыдні...

• **11 верасня** ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў галерэі «Лабірынт» адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы **«Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Вехі гісторыі»**. На мерапрыемстве выступілі дырэктар НББ Раман Матульскі, намеснік міністра культуры Валерый Гедройц.

Экспазіцыя, размешчаная ў Музеі кнігі, расказвае пра асноўныя этапы развіцця і станаўлення. Пра гэта яскрава расказваюць некалькі стэндаў, кожны з якіх прысвечаны пэўнаму перыяду гісторыі бібліятэкі: «У пачатку шляху. Станаўленне бібліятэкі (1921–1926)», «Бібліятэка ў перадваенны перыяд (1927–1941)», «Бібліятэка ў час Вялікай Айчыннай вайны (1941–1944) і ў пасляваенны перыяд аднаўлення (1944–1959)», «Бібліятэка ў 1960–1970-я гады», «Бібліятэка ў 1980–1990-я гады», «Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў пачатку XXI стагоддзя».

Усе наведвальнікі выставы змогуць пабачыць унікальныя фотаздымкі, рукапісы, дакументы з асабістых архіваў вядомых бібліятэчных дзеячаў, узнагароды бібліятэкі, у тым ліку ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга (1972), дакументы і матэрыялы па будаўніцтве бібліятэкі. Сярод экспанатаў – і сімвалічны ключ, а таксама макет новага будынка.

• Новая выстаўка «**Праз стагоддзі да графаў фон Гутэн-Чапскіх**» адкрылася **20 верасня** ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры. Наведвальнікам прадстаўлена багатая экспазіцыя: акрамя гістарычных матэрыялаў, дакументаў і літаратуры па краязнаўчай тэматыцы, да ўвагі гледачоў радавод і партрэты Чапскіх, экскурсійны маршрут «Чапскія на Міншчыне», серыі тэматычных стэндаў, а таксама серыя фотаздымкаў «Станькаўская сядзіба». Таксама прадэманстраваны дакументальныя фільмы «Замак у Прылуках», «Прылуцкая спадчына», «Напалеон Орда». Яны будуць дэманстравацца на працягу дзеяння выстаўкі да 24 кастрычніка.

# Свята ў Зацітавай Слабадзе

У кожнага паселішча ёсць свая гістарычная памяць. Яе ўтрымліваюць у сабе не толькі папяровыя крыніцы (архіўныя дакументы, старыя газеты, часопісы і фотаздымкі ў сямейных альбомах). Ёсць яшчэ і гістарычная памяць – у свядомасці людзей, у легендах і паданнях, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Вёска Зацітава Слабада Пухавіцкага раёна (першая згадка пра яе датуецца 1623 годам) – з тых паселішчаў, жыхары якіх з павагай ставяцца да сваёй мясцовасці. Таму і сабраліся слабадчане напрыканцы лета на свята вёскі з адмысловай назвай «За Цітаўкаю – Слабада». Святочнае дзейства арганізавалі старшыня выканкама Пухавіцкага сельсавета Галіна Мірчук і загадчыца Зацітаваслабадской сельскай бібліятэкі-клуба Таццяна Журок.

Надвор'е спрыяла таму, каб вяскоўцы і госці сабраліся каля клуба. У скверы была разгорнута выстава даматканых пасцілак, рушнікоў і дываноў, створаных мясцовымі майстрыхамі. Шмат чаго было на свяце – і песні, і віншаванні старажылаў, і выбар мясцовай Прыгажуні, і вяселле, якое супала з Днём вёскі. Ды і нямала гасцей завітала на свята: генерал-лейтэнант у адстаўцы Яўген Мікульчык, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Бурація Алена Мікульчык, кандыдат сельскагаспадарчых навук Мікалай Свірыдаў і шмат хто яшчэ. Многіх на свяце перш-наперш ядналі ўспаміны пра маладыя гады, пра родзічаў, прашчураў, пра рэкі Свіслач і Цітаўка, аб прыгожых ваколіцах, без якіх нельга ўявіць Зацітаву Слабаду.

З гісторыяй вёскі звязана і гісторыя мастацкага фільма «Строгая жанчына», здымкі якога праходзілі напрыканцы 1950-х. Сцэнарый кінастужкі напісаў драматург Міхась Блісцінаў. У карціне здымаліся славутая Стэфанія Станюта, расійскі акцёр Юрый Бялоў, будучая пісьменніца Алена Кобец-Філімонава.

У Зацітавай Слабадзе ў розныя гады бывалі пісьменнікі Захар Бірала, Іван Падбярэзскі, Сцяпан Кухараў, Уладзімір Саламаха, мастак Барыс Рэпін. Акрамя таго, сёлета выйшла ўжо другое выданне кнігі пра Зацітаву Слабаду (першае пабачыла свет у 1997-м).

**Мікола ПРЫТЫКА**

*Ліст у рэдакцыю*

# І ўсё ж гэта міф!

Міф пра Паўлюка Багрыма цешыў многіх пад час камуністычнай ідэалогіі. Хто толькі з паэтаў, пісьменнікаў не лічыў абавязкам адзначыцца, пагрэцца ля міфічнага цяпельца, раздутага тагачаснай ідэалогіяй. Выдадзены цэлы зборнік гэтай так званай Багрыманіяны. Але міф застаецца міфам, як не імкніся даказваць, бо фактаў, дакументаў, якія пацвярджалі б, што верш напісаў менавіта Паўлюк, і менавіта ён выкаваў жырандолю, няма.

Я лічу, што гэты міф павінен паціхеньку згаснуць, бо ён не з'яўляецца такім ужо важкім фактарам таленавітасці просталюдзінаў. Ананімны верш – гэта ўзор народнай творчасці (не адзіны!), эмоцый, перажыванняў, сведчання гістарычнасці.

Цаню прыхільнасць Уладзіміра Мархеля да міфа. Як бачна, і ён з 1968 года прыхінуўся да гэтай Багрыніяны. Няўжо няма больш актуальных тэмаў сённяшняга дня?

**P.S.** *Прапаную даць слова на старонках «КГ» нашаму сябру па краязнаўстве з Баранавічаў Міхасю Маліноўскаму.*

*Мікола ЛАВІЦКІ,*
*г. Мінск*

**Ад рэдактара.** ***На жаль, Мікола Лавіцкі, відаць, не разумее, што нашай беларускай зямлі якраз і не хапае міфаў. Магчыма, вось такімі падыходамі мы разам з міфамі (выракаючыся іх) страцілі большую частку праўдзівай сваёй гісторыі. А калі дакладней, аддалі яе суседзям, разам з міфамі. Таму ёю і карыстаюцца (і вельмі актыўна) літоўцы, палякі, расіяне і інш.***

***Мне асабіста хацелася б цэлую Энцыклапедыю міфаў уключыць (не смейцеся толькі) у гістарычны кантэкст.***

***Чаму? Ды таму, што міф на пустым месцы не ўзнікае. Для прыкладу. Раю Міколу Лавіцкаму прыехаць у любую (на ягоны выбар) нашу вёсачку з назвай Гарадзішча (альбо Селішча, Курганы і г.д.) і папытаць у старых людзей: дзе тут тое месца, дзе карэта з золатам правалілася. І Міколу абавязкова завядуць на археалагічны помнік. Адкажыце, калі ласка, што гэта – міф ці гістарычная праўда? Таму, давай жа, дружа-Мікола, не будзем страчваць і далей разам з міфамі каштоўныя факты нашай гісторыі – адным з якіх быў, ёсць і будзе верш «Зайграй, зайграй...» Для мяне асабіста не мае вялікага значэння, кім ён напісаны, як і не важна тое, хто напісаў «To be or not to be». І там, і тут – вялікія людзі! Маю гонар, што адзін з іх – беларус!***

***Уладзімір ГІЛЕП***

**P.S.** ***Міхась Маліноўскі ў мінулым годзе ўжо выказаўся на старонках «КГ» па гэтым пытанні. Таму лічу: вяртацца да спрэчак «быць ці не быць» Паўлюку Багрыму «КГ» не варта.***

*Прадаўжальнікі традыцый*

# ...І кошык мае прыгажосць

***Жнівень у Беларусі апошнім часам пазначаны традыцыйнымі ўжо мядовымі кірмашамі ў сталіцы ды іншых гарадах краіны. Сёлетні фестываль мёду ў рэспубліканскім Палацы мастацтваў на вуліцы Казлова сабраў пчаляроў з розных куткоў Беларусі, завіталі і госці з Расіі. Ходзячы між шэрагамі з шклянкамі-слоікамі-біклагамі, спакойна, без залішняга тлуму можна было не толькі паспытаць розныя гатункі мёду і набыць упадабаны, але і выбраць сувенір з пчалінага воску ды пагутарыць з пчалярамі, даведацца аб пажыўных і лекавых каштоўнасцях не толькі мёду, але і пыльцы, пергі, так званага «пчалінага хлеба». Увагу прыцягнула гандлёвае месца аднаго з удзельнікаў фэсту-кірмашу: апроч фотаздымкаў пасекі на стэндзе былі выявы інтэр'ераў з вырабамі з лазы. Падышоў пазнаёміцца. Уладзімір Васільевіч ЛАЎРОЎ жыве на хутары непадалёк ад вёскі Александрова Мёрскага раёна, мае адукацыю настаўніка чарчэння, малявання і працы, але цяпер займаецца толькі гаспадаркай. Размова нашая пачалася з ягонага захаплення пчалярствам.***

– Гадоў дзесяць таму сусед задумаў набыць сабе колькі сем'яў пчолаў (у мяне на хутары суседзі – гэта кіламетр). Заехаў да мяне: паехалі, Валодзя, дапаможаш мне пагрузіць вуллі, а захочаш – то і сабе набудзь... А як паглядзеў я, што некаторыя рамкі трэба збіць, каб не рассоўваліся, што трэба вуллі давесці да ладу, паглядзеў, як тыя пчолы шчыруюць, то аддаў апошнія грошы (быў канец мая, атрымала жонка-настаўніца адпускныя на лета). Старыя вуллі, сем'і дрэнныя – але набыў. Гэта цяпер, калі стаў вывучаць пчалярства, то зразумеў, што цаны той яны не каштавалі. Ну, і пачаў я вучыцца – кожны дзень зазіраю ў вуллі, каб напрактыкавацца, чытаю літаратуру; зразумець цяжка, я зноў лезу ў вулей... І трагедыя адбылася праз два гады. Вопыту было мала, я не даглядзеў іх. Пасля гэтага стаў сябрам таварыства пчаляроў Беларусі, набірацца вопыту ад іншых, ездзіў на кансультацыі і канферэнцыі. Гэтая справа пастаўленая добра ў таварыстве. І пачаў разумець памылкі: неабходна лячыць сваіх пчолак. Справа пайшла. Цяпер у мяне медазбор лепей, чым у сярэднім па Беларусі, маю трыццаць сем'яў, атрымліваю блізу 70 кілаграмаў з вулля. Ужо і сам перадаю досвед – пісаў у газеты, у часопіс: з чаго пачынаць, як наладзіць працу, каб была добрая аддача. Вядома ж, да працы я далучаю і дзяцей: разам і цяжкія карпусы здымаем, і адпампоўваем мёд, іншую працу робім... Тут няма нейкіх пярэчанняў з іх боку, бо, лічу, павінна быць у сям'і дысцыпліна, як у пчалінай.

**– Цяпер Вы пастаянна ўдзельнічаеце ў падобных выстаўках-кірмашах?**

– Так, стаўленне да мяне ў гэтай арганізацыі вельмі добрае, дапамагаюць у розных сітуацыях. Наш арганізатар Міхаіл Міхайлавіч Халадзінскі заўжды гатовы прыйсці на дапамогу чалавеку, запрашае на выстаўкі.

**– Цяпер, Уладзімір Васільевіч, пагаворым пра Вашае другое захапленне.**

– Пачнем з таго, што я не люблю сядзець проста так. А лаза – тая праца, дзе патрэбныя і цярплівасць, і шмат папрацаваць: знайсці тую, што падыходзіць для пляцення, нарэзаць пруты, зварыць іх, высушыць, рассартаваць... Калі займацца прафесійна пляценнем, то лаза павінна быць розных колераў – карычневая, чырвоная, белая, розных адценняў. Падчас варкі ўсё гэта дасягаем: гадзіну паварыш, яна стане чырванаватай, болей – карычневай. Але ж трэба захоўваць і тэмпературны рэжым, бо змяняюцца ўласцівасці матэрыялу. Сама лаза бывае розная – не ўсялякая падыходзіць. Варыш, а адценні розныя. Пачынаеш шукаць, каб не рознілася (калі прафесійна займаешся, то ўжо не хочацца пускаць на самацёк, маўляў, сыдзе і так). Шмат даводзіцца ездзіць, спрабаваць.

**– І як даўно пачалі займацца лозапляценнем?**

– Гадоў дзесяць – прафесійна. Раблю сталы – круглыя, квадратныя, авальныя, крэслы, канапы, табурэцікі, паліцы, шафы, лыжкі. Шмат перарабіў за гады. Да такой працы, відаць, павінна быць цяга – з маленства шукаў нешта адметнае, адзначаў асаблівасці прадмета. Узяць той жа кошык. Ён, можа, і прымітыўны, для збору бульбы, а мяне захапляла, што чалавек зрабіў гэткую прыгажосць. «Якая прыгажосць? – смяяліся дзеці. – Гэта ж кошык!» З маленства, відаць, павінна выхоўвацца мастацтва захапляцца – і паўсядзённым у тым ліку.



На пасецы

Нарадзіўся я ў Барысаве. А сям'я была такая – мама рана памерла, бацька сышоўся з другой, а мы, дзеці, бадзяліся самі сабою. Добрыя людзі прыстроілі мяне ў школу-інтэрнат у Нясвіжы. Памятаю, малы я маляваў – партрэт мамы (калі яна яшчэ была жывою), сяброў, рабіў шаржы... І мяне заўважылі. З Мінска прыехалі настаўнікі з школы-інтэрната для адораных дзяцей імя Ахрэмчыка (яна і цяпер існуе) – забралі туды вучыцца. Ды так атрымалася, што спецыяльнай мастацкай адукацыі я не атрымаў, зноў вярнуўся вучыцца ў Нясвіж. Але ж схільнасці і зацікаўленні засталіся. Тады я падумаў: мне патрэбная адукацыя. І чамусьці выбраўся ехаць у Віцебск. Потым настаўнічаў, маляваў, пачаў займацца пляценнем з лазы. Карцінаў цяпер не малюю, але аловак у рукі бяру – для сябе што намаляваць, дзецям паказаць, унукам. Нехта ж павінен гэта пераняць. Чатырохгадовая ўнучка спрабуе маляваць, выразаць. Набываю ёй алоўкі і фарбы.

З часам пазнаёміўся яшчэ з двума майстрамі з Наваполацка. Напачатку living рознае было ў стасунках: рэўнасць, падазронасць і часамі не зусім добрыя водгукі адзін аб адным... Ды з часам зразумелі: паасобку мы ўжо не можам існаваць. Цяпер сазваньваемся, раімся, нават шукаем адно аднаму пакупнікоў.

...Хаця – гэтая праца не выгадная. Затраціць трэба шмат працы, гатовыя вырабы стаяць, бо такое каштуе не танна, шмат не прадасі. Але раблю, бо душа патрабуе. Не цураюся і кошыкаў – тысячы з дзецьмі сплёў людзям на падарункі ці на штодзённае скарыстанне (увогуле люблю рабіць падарункі). Чалавеку дасі нешта, ён карыстаецца і мяне ўзгадае, я згадаю яго... Стараюся рабіць людзям бескарысна. Людзі гэтае заўважаюць – як бы не ставіліся да цябе, за тое, што шмат працуеш, дапамагаеш іншым, ён будзе паважаць цябе (хаця можа быць з табою і ў благіх стасунках, ненавідзець). За жыццё я ў гэтым упэўніўся. І дзяцей вучу: дапамагайце іншым, у інтэрнаце дапамагайце, у вучобе.

**– Калі кажуць, што мужчына павінен пабудаваць дом, то Вы пабудавалі іх некалькі?**

– Зараз скажу... Пяць. Усе рабіў для сябе, але даводзілася пераязджаць, асталёўвацца на іншым месцы.

**– Акрамя гэтага, кажа прыказка, трэба мець сына і пасадзіць дрэва.**

– У мяне два сыны і тры дачкі. А дрэвы я дзе жыў, там і садзіў – яблыні, слівы, грушы... Мы з'язджаем, а дрэва застаецца іншым людзям. У 1979 годзе па накіраванні я прыехаў з сям'ёй у Мёры. Тут пабудаваў дом, але цяпер перабраўся на хутар. А ў тым доме, дарэчы, жыве вядомы не толькі ў раёне настаўнік гісторыі і краязнавец Вітаўт Антонавіч Ермалёнак.



Суразмоўца, ягоная сям'я і вырабы з лазы

***Гутарыў***
***Уладзімір ПУЧЫНСКІ***







*З Беларускай Энцыклапедыі можна даведацца, што Станькава – вёска ў Дзяржынскім раёне, на рацэ Рапусе, за 12 км ад станцыі Койданава, за 10 км ад горада Дзяржынска. З помнікаў архітэктуры – Станькаўскі сядзібна-паркавы ансамбль і Свята-Мікалаеўская царква.*

*Што тычыцца Станькаўскага парку – так, ён існуе, хоць і ў вельмі занядбалым стане. А наконт царквы, дык больш дакладна трэба было надрукаваць «руіны Свята-Мікалаеўскай царквы». У кожнага з тых, хто жыве на зямлі, свой лёс. Іншы народзіцца і прыгожым, і таленавітым, а лёс яго незайздросны. Тое ж самае можна сказаць і пра лёс гэтай царквы.*



# Час збіраць камяні

Некалі гэта быў адзін з найпрыгажэйшых на Міншчыне храмаў, пабудаваны ў 1858 годзе па фундацыі графа Эмерыка фон Гутэн-Чапскага, уладальніка Станькаўскага маёнтка, а таксама на ахвяраванні прыхаджанаў. Аўтарам праекта быў вядомы на той час архітэктар Канстанцін Тон. Неабходна адзначыць, што граф па веравызнанні быў католікам, займаў у царскай Расіі высокую пасаду. З тым, каб даказаць цару і Айчыне сваю адданасць, ён заклаў у Станькаве праваслаўную царкву. Для пабудовы храма было выбрана маляўнічае месца, насупраць графскага парку і палаца – на беразе штучнага возера: запруды рэчкі Рапусы. За будаўніцтва гэтага храма імператар Расіі Аляксандр II аб'явіў графу Найвышэйшую Падзяку, што было ў той час высокай узнагародай. Першым святаром у Мікалаеўскім храме быў протаіерэй Мікалай Трускоўскі, будучы архімандрыт, гісторык, краязнавец, пісьменнік.

З 1883 да 1918 году святаром служыў протаіерэй Фёдар Чарняўскі, бацька святой Валянціны Мінскай (Сулкоўскай), канaнізаванай Царквой у 2006 годзе. У 20-я гады XX стагоддзя ў храме служыў айцец Мікалай Атавараў, расстраляны ў канцы 1920-х гадоў. Апошнім святаром быў іерэй Ілля Мендзік, расстраляны ў 1936 годзе. Уся яго сям'я была рэпрэсаваная.

Уздоўж царкоўнай агароджы раслі высокія ліпы, паміж якімі былі высаджаны кусты бэзу і чаромхі. На званіцы віселі чатыры званы вагою 12,5; 3; 2 пуды і 20 фунтаў.

Закрылі царкву ў 1936 годзе ў разгар барацьбы з рэлігіяй. З яе было вынесена, разрабавана ўсё каштоўнае, большасць ікон была спалена, а званы пусцілі на пераплаўку. Потым з царквы зрабілі збожжасховішча. У часы Вялікай Айчыннай вайны ў царкве трымалі боезапасы, якія пад час аднаго бою былі ўзарваныя, а храм быў яшчэ больш пашкоджаны. Пасля вайны – зноў прыстасаваны пад збожжасховішча, але ў выніку навальніцы зерне выгарэла і храм пуставаў.

У пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, калі я быў камандзіраваны ў якасці глебазнаўца ў сельскія гаспадаркі Дзяржыншчыны, мне неаднойчы даводзілася праязджаць праз Станькава. Пачуццё вялікага смутку ахоплівала пры поглядзе на руіны, быццам гэта не руіны колісь цудоўнага храма, а знявечаны блізкі чалавек, якому нельга нічым дапамагчы. Аб тым, хто разбураў, як тое адбывалася, я даведаўся летась, калі наведаў выставу ў Дзяржынскім краязнаўчым музеі, прысвечанай графу Эмерыку фон Гутэн-Чапскаму і яго сынам. Яе арганізавала гісторыка-краязнаўчае аб'яднанне «Прылуцкая спадчына».

Падзеі разгортваліся так. У 1961 годзе вясною прарвала драўляную плаціну, якая перагароджвала раку Рапусу. У выніку са штучнага возера хлынула вада, былі затоплены вёска Камянка і калгаснае поле. У ліквідацыі аварыі быў задзейнічаны Станькаўскі вайсковы гарнізон. Па камандзе зверху матэрыялам для рамонту пашкоджанай плаціны павінна была стаць Мікалаеўская царква, што стаяла побач. І ў храм заклалі ўзрыўчатку. Пасля двух моцных выбухаў сцены храма ацалелі. Вернікі, якія назіралі за падзеямі, угледзелі ў гэтым знак. І толькі пасля трэцяга выбуху вайскоўцы атрымалі «перамогу». Сцены храма, яго паўднёвы і заходні прыдзелы з вялікімі намаганнямі расцягнулі з дапамогай ваеннай тэхнікі. Вось такі трагічны лёс напаткаў праваслаўную святыню – Свята-Мікалаеўскі храм.

Летась, пасля кананізацыі святой Валянціны Мінскай, было атрымана дабраславенне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта на адраджэнне храма. Сёлета ў ліпені мне і супрацоўніцы газеты «Звязда» Святлане Карпачок давялося наведаць Станькава. Пра рэстаўрацыю царквы, цяжкасці, якія пры гэтым сустракаюцца, нам расказалі жыхары Станькава: архітэктар Беларускай Праваслаўнай Царквы, гісторык Алег Маслееў, прыхаджанка царквы Святлана Кароткая, а таксама гісторык, журналіст, краязнавец Анатоль Валахановіч. Цяпер руіны ў рыштаваннях, вядуцца работы. Як лічаць многія жыхары Станькава, найбольшымі рупліўцамі па адраджэнню храма і мясцовага парку з'яўляецца архітэктар, гісторык, мастак Алег Маслееў, а таксама прыхаджанка Тамара Казей. Знаёмства з імі зацвердзіла мяне ў пераканаННЯх, што і ў наш час ёсць людзі, для якіх духоўныя каштоўнасці пераважаюць усе астатнія.

З пачаткам адраджэння храма праводзілася дабрачынная акцыя – добраахвотны збор сярод насельніцтва ахвяраванняў на адбудову храма. Ёсць надзея, што ў ёй прымуць удзел не толькі праваслаўныя, але і вернікі іншых канфесій, усе тыя, у каго неабыякавае стаўленне да нашай спадчыны. Магчыма, адгукнуцца і тыя, хто аддаваў загад разбураць царкву.

Дарэчы, ахвяравальнікам будуць выдадзены пасведчанні на імянную цагліну, якая з напісаным на ёй прозвішчам ахвяравальніка будзе ўкладзена ў сцяну царквы, а імёны ахвяравальнікаў будуць пастаянна згадвацца пад час богаслужэнняў. Спяшайцеся рабіць дабро. Пакідаць у руінах спадчыну – вялікі грэх! Час збіраць камяні!

Ахвяраванні можна дасылаць на адрас: г. Дзяржынск АСБ Беларусбанк, код 514, філіял 606 Р/с 3015000460014, УНН 600470110

***Лявон ЦЕЛЕШ,***
***г. Дзяржынск***

# Германія:
## з дзённіка адной паездкі

***Вясёлым ліпеньскім ранкам, у той час, калі большасць людзей звычайна яшчэ спіць, у Мінску з Цэнтральнага аўтавакзала ад'язджаў аўтобус міжнароднага рэйса. Сярод пасажыраў, якія пакрыху пачыналі драмаць, у ім асабліва вылучалася 10 чалавек. Маладыя і шчаслівыя трое хлопцаў і сямёра дзяўчат. Радасць іх была зразумелай: сярод шматлікіх прэтэндэнтаў менавіта яны былі спецыяльна адабраныя адказнай камісіяй на ўдзел у навуковым семінары па вывучэнні Германіі, які павінен быў праводзіцца ў г. Майнц (зямля Rheinland-Pfalz – Райнланд Пфальц).***

Дзякаваць Богу, у лік гэтых дзесяці трапіў і я. Шчыра прызнацца, вывучаючы нямецкую мову ўжо не першы год, заўсёды меў такую надзею, але не вельмі думаў, што мара ажыццявіцца. Трэба адзначыць, што ўсе ўдзельнікі навуковага семінара былі запрошаны ў Майнц па ініцыятыве арганізацыі Freundschaftkreis Mainz-Minsk, якая і была ініцыятарам правядзення семінара. З 1995 года арганізацыя штогод праводзіць рознапланавыя мерапрыемствы з удзелам жыхароў з усходне-еўрапейскіх краін. Але падобная праграма ажыццяўлялася ўпершыню. Дзесяці маладым беларусам ва ўзросце ад 18 да 28, якія цікавяцца ўкладам жыцця Германіі, даваўся унікальны шанец на прыкладзе зямлі Rheinland-Pfalz, пазнаёміцца з культурай, палітыкай, адукацыяй, рэлігіяй і эканомікай Германіі.



*Вандроўка з Францам Блюмам*

Горад Майнц, у якім мы жылі, амаль поўнасцю разбураны пасля вайны, сёння цудоўна адбудаваны і захаваў сваю самабытнасць. Высокія дамы, выбітныя касцёлы, арыгінальныя фантаны на плошчах і, вядома, свой, непаўторны нямецкі каларыт. Менавіта гэты горад, адну мяжу якога абмывае Рэйн, на тыдзень прытуліў нас у нямецкай зямлі.



*Від Майнца і фрагмент вітража М. Шагала*

Нягледзячы на тое, што семінар доўжыўся цэлы тыдзень, час праляцеў вельмі хутка. Акрамя таго, мы мелі цудоўную магчымасць наведаць найбольш цікавыя мясціны горада. Адно з іх – музей друкаванай кнігі. Менавіта тут у XV стагоддзі Іаган Гутэнберг надрукаваў сваю знакамітую Біблію. Мы не толькі на свае вочы ўбачылі гэты друкаваны шэдэўр, але і ўвогуле пазнаёміліся з гісторыяй кніга- і газетадрукавання ў Германіі. Асабліва ўразіла інсцэніроўка самога працэсу кнігадрукавання, які спецыяльна для наведвальнікаў арганізаваў музей.

Незабыўныя ўражанні пакінуў пасля сябе касцёл Св. Стэфана, дзевяць вітражоў у якім распісаў наш знакаміты віцябчанін Марк Шагал. Дзякуючы іх блакітнаму шклу, праз якое прабіваецца сонца, ва ўсім касцёле ды і на душы ствараецца цудоўная атмасфера спакою і цеплыні. Вельмі цікавай была наша паездка ў рэдакцыю газеты «Allgemeine Zeitung». Мы пазнаёміліся з арганізацыяй выхаду газет у рэгіёне, атрымалі цікавыя звесткі пра друкаваныя выданні Германіі. Даволі насычаная праграма спрыяла нашаму наведванню універсітэта Іагана Гутэнберга, дзе нам аглядна расказалі пра сістэму вышэйшай адукацыі ў краіне, а таксама пра дзейнасць студэнцкага самакіравання ва універсітэце. Дарэчы, сярод нас, беларускай моладзі, многія былі студэнтамі. Напрыклад, Карына Сімчанка і Аксана Шура – студэнткі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна (дзяўчыны вучацца па спецыяльнасці «замежная мова»).

(Заканчэнне на стар. 6)







# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–35)*

Адпаведна, не проста так у галодным для Беларусі 1922 годзе знайшліся сродкі, каб выдаць Купалаў выбраны том паэзіі «Спадчына» накладам 7 тысяч асобнікаў. Сённяшнія, мы, чытачы таго тома, дзе сабралася ўсё лепшае Купалава за час яго першапачатковай дзейнасці, не можам не адзначыць дзве рэчы. Першая: як напісана ўсё шчыра, натхнёна! Другое: колькі радкоў, дзе Купалу тады яшчэ не «вучылі», але колькі скарачалі. Пазней абыйшліся больш разлікова: многіх Купалавых твораў са «Спадчыны» не перадрукоўвалі, хвалілі яго за беларускую народнасць, але да паняцця Купалавай народнасці нас не дапускалі...

## *Купала пасля... «Спадчыны»*

Першае выбранае паэзіі Янкі Купалы «Спадчына» зрабіла вялікае ўражанне на беларускую грамадскасць пачатку 1920-х гадоў – як на прыхільнікаў беларускай мовы, літаратуры, культуры, так і на тады яшчэ велізарны корпус абыякавых і варожа настроеных (усё яшчэ камянеў царскі настрой і выраз-тэзіс: «Я не знаю белорусского. Но не люблю его потому, что оно по-белорусски!.. ») Аргументаў супраць гэтых «мудрасцей» супрацьпаставіць цяжка.

Можа, і па-свойму ратуючы сябра ад шавіністычных нападаў, Якуб Колас у тым 1922 годзе паспрабуе супакоіць «старых і маладых рэвалюцыянераў, будаўнікоў новага жыцця», каб, таксама можа, падстрахавацца і самому. Колас напіша такое: «Зборнікам "Спадчына" Купала завяршае свой паэтычны дакастрычніцкі шлях і становіцца на новы, на шлях палкага прыхільніка і песняра новай эпохі, пачатак якой паклала Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя».

*1923 год.* Што ж прадаўжае Купала па «новым шляху?» У студзені загадам Наркамасветы БССР ён зацвярджаецца Старшынёй Гуманітарнай секцыі (правапіс пасады з вялікай літары не наш. – **Г.Д.**). У сакавіку Купалаў верш «А хто там ідзе?» друкуецца ў перакладзе яшчэ на адну, на гэты раз далёкую ад Беларусі, мову – італьянскую. У ліпені Купала едзе ў Канеў (Украіна), каб не проста прысутнічаць там пры адкрыцці помніка Тарасу Шаўчэнку, але каб і ўшанаваць геніяльнага паэта, які зрабіў на яго велізарны творчы ўплыў. У верасні разам з членамі Інбелкульта наведвае Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскве, дзе былі прадстаўлены шматлікія экспанаты і з Беларусі. Сустракаецца са знаёмымі масквічамі, «маскоўскімі беларусамі» (К. Буйло, М. Ганчарыкам, М. Аладавым і інш.).

Тагачасны верасень – выключны і па-сённяшні дзень перыяд у Купалавым жыцці: любімая тады сярод беларускай інтэлігенцыі газета «Савецкая Беларусь» (выходзіла на беларускай мове) паведаміла: рыхтуецца да тэатральнай пастаноўкі яго п'еса «Тутэйшыя». Безумоўна, тады гэта быў няпросты не толькі мастакоўскі, але і чалавеча-грамадзянскі ўчынак: пасля «справядліва вырашанага нацыянальнага пытання ў Беларусі, якая стала рэспублікай СССР», падымаць беларускі боль!

***Як з'яўляюцца вялікія нацыянальныя паэты, тыя, што прыносяць сусветную славу свайму народу, узбагачаюць яго духоўную культуру мастацкімі каштоўнасцямі?***

***На такое пытанне цяжка знайсці пэўны адказ. Бо ў кожнага майстра слова шлях у літаратуру складваецца па-свойму. Але што бясспрэчна збліжае таленавітых творцаў, дык гэта глыбокая сувязь с народным жыццём, адчуванне еднасці з родным краем, замілаванасць тымі куточкамі, дзе давялося спазнаць светлую радасць, надзею, перажыць няўдачы і сумненні. Шчырая, непадробная любоў да людзей працы, да роднай прыроды з'яўляецца невычэрпнай крыніцай натхнення песняроў.***

***Свой «родны кут», вядома, быў і ў Янкі Купалы. Але ён не забываў і іншыя мясціны нашай Беларусі. Шмат памятных мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю народнага паэта, ёсць і на Магілёўшчыне.***

# *Янка Купала на Магілёўшчыне*

На геаграфічнай карце краіны можна адшукаць мноства такіх мясцін, якія яскрава сведчаць аб размаху творчых і жыццёвых сувязей народнага паэта. Некаторыя з іх размешчаны на Магілёўшчыне. Хоць бываў ён тут рэдка, наездамі, але пакінуў добрую памяць пра сябе. Тут жыло і жыве шмат людзей, якія сустракаліся з песняром. З іх дапамогай і адшуканы мясціны і аб'екты, звязаныя з лёсам паэта.

Я вырашыла завочна прайсціся сцежкамі Янкі Купалы, які вельмі часта ездзіў па гарадах і вёсках вобласці, удзельнічаў у літаратурна-грамадскіх мерапрыемствах, пісаў аб справах людзей вобласці.

Дарогі Янкі Купалы пралягалі праз Бабруйск, Горкі, Клімавічы, Магілёў, вёскі Горы Горацкага, Александрыя і Гарадзішча Шклоўскага раёнаў. Але застаецца шмат невядомага пра наведванне паэтам Магілёўшчыны ў дарэвалюцыйны час. Калі прытрымлівацца адміністрацыйнага падзелу, які існаваў у Беларусі ў часы царызму, то выходзіць, што ён неаднаразова бываў на Магілёўшчыне яшчэ ў дакастрычніцкі перыяд. Здаралася гэта ў найбольш цяжкія моманты яго жыцця. Напрыклад, у 1902 годзе, калі сямейнае становішча Янкі Купалы значна ўскладнілася пасля смерці бацькі, і ён, як і на пачатку сваёй працоўнай дзейнасці, вымушаны быў прадоўжыць блуканні па свеце ў пошуках кавалка хлеба. Вандроўніцкая эпапея часам заводзіла яго далёка ад роднай Міншчыны.

Зараз і мы пройдзем сцежкамі Янкі Купалы па гэтых мясцінах.

Першы горад – Клімавічы. Пісьменнік наведаў яго два разы: спачатку ў 1918 годзе, калі закупляў збожжа ад насельніцтва, а потым – у 1925 годзе. Разам з пісьменнікам А. Александровічам ён прымаў удзел у гарадскім сходзе вучняў і настаўнікаў.

Яшчэ адзін горад – Горкі. Сюды Янка Купала наведаўся аж чатыры разы, і не толькі ў райцэнтр, але і ў некаторыя іншыя месцы. Першы раз Янка Купала наведаў Горкі ў пачатку лета 1925 года ў сувязі з 20-гадовым юбілеем сваёй літаратурна-грамадскай дзейнасці і напярэдадні яшчэ адной важнай падзеі ў сваім жыцці – прысваення яму ганаровага звання народнага паэта.

Наступную сваю паездку ў Горкі Янка Купала здзейсніў амаль праз паўгода – 28 лістапада 1925 года з мэтай удзелу ва ўрачыстасцях, прысвечаных пераўтварэнню сельскагаспадарчага інстытута ў акадэмію.

Зафіксаваны яшчэ адзін, трэці, прыезд Янкі Купалы ў Горкі, які адбыўся ў першай палове лютага 1928 года. Тады пісьменнік прыехаў для ўдзелу ў сустрэчах з чытачамі.

Была нядзеля, і пасля выступлення і шчырай гутаркі з чытачамі пісьменнік наведаў рынак, куды з'ехаліся сяляне з усяго раёна. Янка Купала з вялікай цікавасцю і захапленнем аглядаў звезеныя сюды багацці, слухаў каларытную беларускую гаворку, ахвотна завязваў гутаркі з сялянамі.



*Янка Купала (у трэцім шэразе за дзяўчатамі ў белым), Платон Галавец, Уладзімір Хадыка і Алесь Жаўрук сярод рабфакаўцаў і рабочых саўгаса «Сосны» (Горкі, 1933 г.)*

Некаторыя даследчыкі з ліку мясцовых краязнаўцаў лічаць, што Янка Купала бываў у Горках і ў маі 1933 года. Гэты факт выкарыстоўваецца ў музеях, літаратурна-краязнаўчых экспазіцыях і выстаўках, звесткі аб ім паступова праніклі нават у друк. Так, у газеце «Магілёўская праўда» за 1978 год сцвярджалася, што паэт часта з задавальненнем выносіў на суд горацкіх сяброў свае новыя творы. Першым пашчасціла пачуць пра вядомую і папулярную потым паэму «Над ракою Арэсай» студэнтам-рабфакаўцам сельгасакадэміі з вуснаў самога песняра. У час той памятнай сустрэчы Янка Купала прачытаў ім некаторыя раздзелы з новага твора, расказаў аб працы над ім. Захаваўся здымак, на якім Янка Купала сфатаграфаваны ў акружэнні вялікай колькасці людзей – студэнтаў і выкладчыкаў рабфака Горацкай сельгасакадэміі.

Апошні прыезд Янкі Купалы ў Горкі быў 30 чэрвеня 1941 года, калі ён разам з жонкай Уладзіславай Францаўнай эвакуіраваўся на легкавым аўтамабілі з дачы ў Ляўках. У Горках зрабілі кароткі прыпынак, а потым накіраваліся ў вёску Горы.

Неаднойчы бываў Янка Купала і ў Магілёве.

Горад займае даволі значнае месца ў творчым лёсе Янкі Купалы. Паэт быў добра знаёмы з яго гісторыяй, з фальклорна-этнаграфічнымі матэрыяламі Магілёўшчыны, некаторыя з іх паслужылі крыніцай для яго мастацкіх твораў. Неаднаразова згадваў ён Магілёў і Магілёўшчыну ў сваіх творах («Сын і маці», «То не шум баравы», «Кліч да беларускага народа» і іншых).

На жаль, вельмі мала захавалася звестак пра першае наведванне паэтам горада. Вядома толькі, што сюды ён завітаў у чэрвені 1924 года, калі з групай пісьменнікаў выязджаў у творчую камандзіроўку. Але творчыя і жыццёвыя дарогі прыводзілі паэта сюды і пазней.

У студзені 1933 года Янка Купала наведаў Магілёў другі раз. Паэт выступаў у актавай зале філфака Магілёўскага педінстытута. Ён з вялікім уздымам і натхненнем прачытаў некалькі вершаў.

У літаратурна-мастацкім часопісе «Заклік» за 1933 год ёсць такое паведамленне: «Па запрашэнні Магілёўскага Дома Чырвонай Арміі для наладжвання літаратурнага вечара-сустрэчы з палітычным, начальніцкім і камскладам гарнізона выязджала брыгада пісьменнікаў у складзе Янкі Купалы, Цішкі Гартнага, П. Галавача, М. Лужаніна і А. Кучара.

Вечар-сустрэча быў наладжаны 19 студзеня ў Доме Чырвонай Арміі.

20 студзеня адбыўся літаратурны вечар для студэнцтва горада Магілёва».

Зноў у Магілёў Янка Купала наведаўся 5 красавіка 1938 года, калі ў горадзе распачынаў свае гастролі Віцебскі драматычны тэатр (БДТ-ІІ) пастаноўкай спектакля па п'есе Якуба Коласа «У пушчах Палесся». Тады ў зале прысутнічалі Якуб Колас, Янка Купала і Міхась Клімковіч, якія прыязджалі сюды спецыяльна на прагляд пастаноўкі. Аб гэтым факце біяграфіі Янкі Купалы пісалася ў розных газетах, аднак ва ўсіх гэтых крыніцах факт знаходжання паэта ў Магілёве толькі зафіксаваны, падрабязнасці ж яго зусім застаюцца не раскрытымі.

Апошні раз пісьменнік прыехаў у Магілёў у 1938 годзе і наведаў фабрыку штучнага валакна.

Прыкметнае месца ў біяграфіі Янкі Купалы займае Бабруйск. Паэта звязвала з горадам доўгае і моцнае сяброўства. Завязалася яно на пачатку дваццатых гадоў і вялікую ролю ў яго станаўленні адыгралі бабруйскія настаўнікі, шчырыя прапагандысты Купалавай творчасці.

Упершыню народны паэт наведаў Бабруйск у лютым 1930 года ў сувязі з трохмесячнікам беларускай культуры. Ён сустракаўся з працоўнымі горада, выступаў на літаратурных вечарах.

***Таццяна ГРАСЮКОВА,***
***вучаніца СШ № 2 г. Чавусы***

*(Заканчэнне будзе)*

# Рэгіянальны палескі каларыт у трылогіі Якуба Коласа «На ростанях»

***Адметнасць Коласавага таленту заключаецца ў тым, што ў сваёй творчасці ён ідзе ад уласна перажытага, ад таго, што добра ведаў. У першых дзвюх аповесцях трылогіі «На ростанях» пamастацку асэнсаваны гады працы пісьменніка настаўнікам на Палессі. Гэты край Якуб Колас добра ведаў і любіў, «бы ягоны родны сын». Таму ў творы выразна выявіўся палескі рэгіянальны каларыт.***

Пісьменнік шырока ўводзіць у твор геаграфічныя назвы, якія з'яўляюцца своеасаблівымі арыенцірамі, каб чытач вызначыў, дзе адбываецца дзеянне. Галоўны герой трылогіі «На ростанях» Андрэй Лабановіч працуе на Палессі ў вёсках Цельшына і Выганы. Гэта выдуманыя пісьменнікам назвы, аднак выразна (хоць яны і тыпізаваныя) угадваюцца тыя, дзе працаваў настаўнікам Якуб Колас – Люсіна на Ганцаўшчыне і Пінкавічы на Піншчыне. Падказкаю тут выступаюць сапраўдныя геаграфічныя тапонімы. Лабановіч, крыху пацвельваючы над лекарскімі здольнасцямі бабкі Мар'і, кажа, што пра яе знахарства ведаюць у Хатовічах, Малькавічах і Ганцавічах. Бабка не без гонару дадае: «...з-пад самага Пінска прыходзяць і прыязджаюць да старое Мар'і». Малькавічы і Ганцавічы знаходзяцца непадалёку ад Люсіна, а ў назве Хатовічы без цяжкасці ўзгадваецца суседняя з Люсіна вёска Хатынічы.

Яшчэ больш дакладны Якуб Колас у вызначэнні месцазнаходжання вёскі Выганы. У другой кнізе трылогіі гаворыцца, што гэтае паселішча размешчана ў пяці вярстах ад Пінска на самым беразе ракі Піна. З ліку іншых геаграфічных арыенціраў згадваецца Альбрэхтова, уладанне пана Скірмунта, вёскі Лашча і Купяцічы.

Якуб Колас шырока ўвёў у абедзве палескія аповесці мікратапонімы вёсак Люсіна і Пінкавічы. У першай кнізе згадваецца Сяльцо, Целяшоў Дуб, Завітанкі, Яшукова гара і інш. Дакладны пісьменнік у апісанні саміх вёсак. Калі параўноўваеш агульны выгляд вёскі Цельшына, апісаны ў аповесці «У палескай глушы», і Люсіна, то асабліва выразна бачыцца, у якой ступені Якуб Колас дакладны ў перадачы адметнасцей гэтай палескай вёскі на Ганцаўшчыне. У трылогіі згадваецца, што школа ў Цельшыне стаяла на перасячэнні дзвюх вуліц, што каля яе стаяў высачэзны крыж. У пісьме, адрасаваным люсінцам у 1948 г., Якуб Колас адказваў на іх просьбу дапамагчы пабудаваць новую школу: «Я зраблю ўсё, што ад мяне залежыць, каб у вас на месцы старой драўлянай школы, каля якой стаяў высачэзны крыж, была пабудавана новая, прасторная, светлая школа». Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што Якуб Колас шырока ўводзіць у твор рэаліі, якія запомніліся яму з гадоў настаўніцтва на Палессі. Адзначае пісьменнік і такую адметнасць планіроўкі вёскі, калі будынкі цягнуцца ў глыб двароў. І па сённяшні дзень захаваліся такія сядзібы ў Пінкавічах.

Не абмінуў Якуб Колас сваёй увагаю і Пінск пачатку XX ст. Вузкія вулачкі, драўляныя дамкі і тратуары, з аднаго боку, і велічныя помнікі старасвеччыны, застыглыя і цудоўныя летапісцы гісторыі горада і краю, з другога.

Выразны рэгіянальны каларыт маюць пейзажы першых дзвюх аповесцей трылогіі «На ростанях». Якуб Колас не проста канстатуе, што першыя гады працы настаўнікам Андрэя Лабановіча прайшлі на Палессі, а па-мастацку малюе гэты самабытны куток Беларусі, прытрымліваючыся навуковай дакладнасці. Пісьменнік не аднойчы адзначыць плоскі раўнінны рэльеф, бясконцыя балоты-пустэлі, пакрытыя купінамі і нізкарослым хмызняком. Суцэльныя лясныя масівы зрэдку перарываюцца невялічкімі палянкамі, якія абрабляліся палешукамі. Такое апісанне характэрна для аповесці «У палескай глушы», дзе дзеянне адбываецца на акраінным Палессі недалёка ад Случчыны.

Глыбіннае Палессе, апісанае ў другой кнізе трылогіі «На ростанях», характарызуецца яшчэ і наяўнасцю вялікай колькасці рэк. Пісьменнік апіша Піну, але згадае Струмень, Стаход, Стыр. Павольная плынь палескіх рэчак, шырокія паплавы, неасяжныя, як мора, балоты, пакрытыя чаротамі з бурымі мяцёлкамі, – такім адкрываецца зарэчны краявід Андрэю Лабановічу, калі ён прыехаў на новае месца працы ў Выганы.

Перад чытачом на старонках першых дзвюх аповесцей трылогіі паўстаюць выразныя постаці палешукоў і паляшучак. Якуб Колас перадае іх знешнюю адметнасць, склад характару. Пісьменнік адзначае фізічнае здароўе і сілу палешукоў, падкрэслівае, што мужчыны носяць доўгія, як у папа, валасы, што для большасці характэрны цёмна-русыя валасы і светла-шэрыя вочы, павольнасць і паважнасць рухаў. Не засталася па-за ўвагаю пісьменніка і вопратка палешукоў. Асабліва дакладна апісаны верхні мужчынскі касцюм: чорная суконная світка, пашытая да стану, шырокі ў чырвоныя палоскі пояс. Жаночыя святочныя ўборы Якуб Колас не дэталізуе, аднак заўважыць, што дзяўчаты і маладзіцы, выходзячы з хатовіцкай царквы, выглядалі, як «макавыя кветкі ў агародзе». Гэтым параўнаннем падкрэсліваецца перавага ў святочным жаночым уборы чырвонага колеру.

У характары палешукоў Якуб Колас падкрэсліць стрыманасць, паважнасць, скрытнасць, гордасць і годнасць. Пісьменнік лічыць, што на характар жыхароў Палесся накладвалі свой адбітак адметнасць краявідаў. Балоты і лес заўсёды заключалі для чалавека пэўную неспадзёўку, вучылі асцярожнасці, абачлівасці.

Якуб Колас у гутарцы з Максімам Лужаніным прызнаваўся, што ніхто з герояў трылогіі «На ростанях» «цалкам не выдуманы». Ёсць прататыпы ў герояў-палешукоў: бабкі Мар'і і яе сына Міхала, Аксёна Каля, бабкі Ганны, Рамана, Занька, Бязручкаў і інш. Паказальна, аднак, што Якуб Колас «надзяляе» сваіх герояў прозвішчамі, якія асабліва часта сустракаюцца ў вёсках Люсіна і Пінкавічы: Рылка, Стукач, Занька, Шкурат, Жыга, Кукса і інш.

Палескі каларыт у трылогіі «На ростанях» выявіўся яшчэ і ў тым, што Якуб Колас уклаў у вусны герояў палешуковы словы і сказы, якія выразна падкрэсліваюць фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці Берасцейска-Пінскага Палесся. Прывядзем некалькі прыкладаў. Старожка Саханюка сказала свайму настаўніку паляшуцкай гаворкай: «Да вас, панычу, там маладыцы прышлы – ліст напысаць хочуць». Адзін з вучняў Лабановіча адказвае свайму настаўніку: «Не знаю, што казаты». Часам на паляшуцкі лад адказвае і Лабановіч. Вярнуўшыся ад Турсевіча, ён расказвае бабцы Мар'і: «Было што піты і есты, але прынукі не было» і інш. Пісьменнік зазначыць, што «ў Цельшыне быў такі звычай, што адна старая жанчына, звяртаючыся да другой, казала ёй "дзеўка"». Гэты звычай жыве на Ганцаўшчыне і сёння.

Нарэшце, Якуб Колас уводзіць у трылогію «На ростанях» легенду пра Яшукову гару, якую запісаў у Люсіне і ўключыў у сваю навуковую працу «Аб сялянскіх будынках (вёска Люсіна, Мінскай губерні, Пінскага павета, Хатыніцкай воласці)». Якуб Колас запісаў два варыянты легенды пра Яшукову гару. У трылогію «На ростанях» уведзены другі варыянт, уключаны ў твор не цалкам, а толькі тая частка, якая выяўляе сацыяльны канфлікт паміж панам і сялянамі. Гэта вытлумачваецца падпарадкаванасцю легенды ідэйнай задуме твора.

Рэгіянальныя адметнасці ў першых дзвюх аповесцях трылогіі «На ростанях» маюць не толькі пазнавальнае значэнне, а выступаюць сродкам характарыстыкі галоўнага героя. Палессе для яго – новы свет, які ён пазнае з прагнасцю, адкрывае ў ім хараство. «Яму па душы быў і гэты глухі куток Палесся, – чытаем у першай аповесці, – і гэты народ з яго асабліваю моваю і звычаямі, так непадобнымі да мовы і звычаяў тых беларусаў, з гушчы якіх выйшаў Лабановіч». Праз адносіны да рэгіянальнага, да тых людзей, куды закінуў яго настаўніцкі лёс, выяўляецца духоўна прыгожая асоба, дэмакрат і гуманіст, эстэтычны густ і маральныя ідэалы якога сфарміраваліся пад уздзеяннем народных уяўленняў пра красу і агіду, пра дабро і зло. Палессе для Лабановіча – вельмі дарагая часцінка радзімы, а палешукі – яго народ, прыналежнасць да якога і непарыўная сувязь з якім ён востра адчувае.

***В. ЛЯШУК***
*(Паводле зборніка «Каласавіны», 1994)*

*Рукапіс трэцяй часткі трылогіі «На ростанях»*

*Кінаафіша мастацкага фільма паводле трылогіі «На ростанях» («Беларусьфільм», 1960–1961 гг.)*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

***(Працяг. Пачатак у №№ 3–35)***

Колас ужо да канца кастрычніка напіша п'есу-сімвал «Забастоўшчыкі», дзе па-новаму асэнсуе і такую тэму, як адносіны ў грамадстве перадавой інтэлігенцыі і таталітарнай улады. Адных, хто падзяляў Коласаў погляд, гэта радавала, настройвала на сумленную натхнёную працу на карысць беларускага народа, а іншых тое змушала насцярожвацца, пільна трымаць усё ў сваім полі зроку, назапашваць факты, каб у першы ж зручны выпадак абрынуць іх на «залішне» самастойных і смелых, якія натхняюць на разважлівасць, прыстойнасць, вернае служэнне найперш роднаму люду...

У гэтым жа, 1924-м, годзе Колас, пачаўшы ў жніўні працу над трэцяй рэдакцыяй паэмы «Сымон-музыка», зноў жа не проста мімаходзь паралельна пачынае і яшчэ адну вялікую працу. Безумоўна ж, адчуваючы не зусім радаснае будучае не толькі беларускай інтэлігенцыі, яшчэ раз і цяпер, бадай, яшчэ глыбей засяроджваецца над асэнсаваннем лёсу беларускага дарэвалюцыйнага настаўніцтва, якое мусіла альбо прыслугоўваць рэжыму, мець кавалак хлеба, альбо хоць тайна супраціўляцца, захоўваць чалавечую годнасць. Гэта значыць, апрача публіцыстыкі і драматургіі, у гэтай справе ён на поўную моц ужывае і празаічныя сродкі – бярэцца пісаць першую частку трылогіі «На ростанях». На першы погляд, там няма «вялікай палітыкі», ёсць толькі вялікія грамадзянскае ўсведамленне, як настаўнік «з народа», пакліканы на радавую педагагічную службу, можа стаць сапраўды радавым службоўцам сярод гэтакіх жа іншых чэрствых служкаў-хлебаедцаў альбо, пераадольваючы «балота» і свае разгубленасці і адчай, усё ж здолее ўзвысіцца да належнага ўзроўню чалавека, асветніка і грамадскага дзеяча. Нават перамагаючы і тое, што яго і люд, якому ён прысвячае свае лепшыя памкненні, можа напачатку, асабліва ў бурны час ягонай дзейнасці, не заўсёды яго разумець і падтрымліваць...Больш – бывае, пры жыцці не кожнага як след ацэняць! Напрыклад, да рэвалюцыі многія сяляне не кожнага свайго шчырага дабрадзея ўспрыймалі, найперш бачачы ў ім «пана»...

Ды Коласу пашанцавала: на канец 1924 года ён створыць тры часткі «Сымона-музыкі», здасць у друк два зборнікі апавяданняў, падрыхтуе да друку перавыданне «Казак жыцця», напіша палову аповесці «У глыбі Палесся». Што да апошняй, дык, забягаючы наперад, варта падкрэсліць: Коласаў шанцунак будзе ў тым, што яго герой Лабановіч стане любімцам беларускіх вучняў, студэнтаў, настаўнікаў. Ды і шырэй.

*1925 год* пабольшыць ягоную чалавечую, творчую радасць і адновіць ягоныя былыя пачуцці трывогі, глыбокія ўзрушэнні, а то і страх. На ўсё накладуць свой адбітак розныя акалічнасці. Па-першае, да чэрвеня ў напружаным рытме ён закончыць трэцюю рэдакцыю «Сымона-музыкі», а ў ліпені-жніўні паэма пабачыць свет у часопісе «Полымя рэвалюцыі», таксама надрукуе новыя апавяданні і артыкулы, засядзе за напісанне аповесці «На прасторах жыцця» (прысвеціць яе новай, савецкай моладзі і яе слаўным справам, каб не кідалі папрокі, што ён у творчасці не сучасны, завельмі «стары» са сваімі дарэвалюцыйнымі тэмамі). Па-другое, для пільных «мастацтвазнаўцаў» знойдзецца магчымасць завесці «уголовное дело» і на Коласа за яго «антысаветызм».





Рышард КУРЫЛЬЧЫК

# Славянскі світанак

**Урывак з аповесці**

*Зіма 490 года нашай эры*
*Высокі, супрацьлеглы вусцю Дзясны, бераг Дняпра*
*Ваяводы і старасты славянскіх плямён*

– З таго моманту, як пайшлі мы з бацькоўскага краю над ракой Белай у невядомы свет, мінула шмат гадоў, мае мілыя! Які па ліку гэты зімовы лагер – нават цяжка сказаць. Адно ведаю дакладна, што не апошні. Бо з надыходам вясны мы рушым далей. Хто ў якім кірунку пойдзе, будзем вырашаць сёння. Хай найперш стараста Тугамір, які з групай разведчыкаў пераадолеў частку шляху, каб ведаць, дзе і якія чужыя народы жывуць, зробіць нам справаздачу са свае місіі.

– Я па ўсіх напрамках разаслаў сваіх абадрытаў. Былі і такія, што апынуліся на ваеннай службе ў Візантыйскім царстве. Пра лёс маіх людзей расказваць не буду, бо для гэтага не хапіла б і зімы. Дазвольце толькі паведаміць, што з гэтых выпраў вынікае.

Да нядаўняга часу на захадзе была моцная дзяржава, якую разбілі германцы. Пераможцы заступаюць нам дарогу на захад. У глыбіні мацерыка, здаля ад халоднага паўночнага мора, жывуць іхнія плямёны: саксы, турынгі, лангабарды і гэпіды, а таксама, відаць, і іншыя, з якімі мы яшчэ не сутыкнуліся.

На поўдні знаходзіцца Візантыйскае царства, з ім лепей не шукаць зачэпкі. Паміж імі, над ракой Віслай, непадалёк ад яе вытокаў, асела сармацкае племя антаў, якіх называюць яшчэ віслянамі. Яны, у адрозненне ад візантыйцаў, не маюць вялікай арміі. Таму поўдзень лепш вывучаць, паступіўшы на службу ў візантыйскую армію...

Пасля азнаямлення з месцамі знаходжання розных плямён лічу, што вясной неабходна першай калонай пайсці паміж сарматамі і германцамі так, каб нашым клінам падзяліць іх. Калі пойдзем з паўднёвага боку гор, то будзем мець за сабой сармацкіх антаў, а пазней – германскіх гэпідаў, насупраць – лангабардаў. Тым, хто пойдзе туды, не варта шукаць звады ні з кім, лепей затаіцца на новых стаянках... Другая ж калона магла б выправіцца ў больш далёкую дарогу – да паўночнага мора. З часам яны павінны заняць прастору ад мора да антаў. А калі так станецца, можна з двух бакоў націснуць на сарматаў і альбо далучыць іх да сябе, альбо пагнаць. Я так маркую! А хто ў якой калоне павінен ісці, не мне вырашаць, таму паўторна аддаю голас табе, Дабрамыслаў.

– Тугамір зрабіў нам справаздачу як ваявода, а не як стараста... Вось паглядзіце, я на зямлі накрэсліў тое, пра што гаварыў Дабрамыслаў. Угары – халоднае мора*, у доле – цёплае**. Насупраць нас германцы, а упоперак перашкодай становяцца горы***, ля якіх сармацкія анты маюць свае сядзібы. Мы стаім тут, у працяг гэтых гор. Заняць жа мы павінны ўсю вольную тэрыторыю перад намі, а калі дапаможа Сварог, то пакарыць германцаў і антаў! Ты гэта меў на ўвазе, Тугамір?

– Сапраўды гэта, хоць ты паказаў справу інакш.

– Нам патрэбны будуць парады і ваяводаў, і старастаў, бо не дробнымі атрадамі рушым у паход, а цэлымі родамі – плямёнамі. Якімі – на гэта мы павінны адказаць сёння, давайце прапановы.

– На мой погляд, самае цяжкае заданне выпадзе тым, хто, як вуж пад камень, павінен будзе цішком прабрацца паміж сармацкімі і германскімі плямёнамі. Калі ж будуць выкрыты раней, чым другая калона падмацуе іх, могуць быць з двух бакоў атакаваны і перабіты!

– Слушна кажаш, Стайгневе, але ж і нам, хто застаецца тут, да поля бітвы таксама недалёка, каб неадкладна прыйсці на выручку. Твая праўда ў тым, што заданне цяжкае, і выконваць яго павінны самыя дужыя. Хто?

– Хай ідуць шчэхі!

– Шчэхі! Шчэхі!

– Бачыш, Часцібор, гэта вас, шчэхаў, лічаць самымі дужымі – і не без падстаў. Ты, як стараста, прымеш гэткае заданне? Калі так, то каго хочаш мець у рэзерве?

– Дазволь перамовіцца з ваяводам Драгавітам.

– Перагаварыце, а калі будзеце гатовы, дай знак. А што з калонай, якая мусіць пайсці да халоднага мора? Зноў ты, Тугамір?

– Так, бо не паспеў сказаць, што дарога да мора доўгая і цяжкая. Каб дайсці да турынгаў і лангабардаў, шчэхі будуць мець не больш за месяц маршу, а мы да мора разоў у пяць-шэсць болей. Таму мая выснова такая: ранняй вясной найперш павінны вырушыць плямёны да халоднага мора, а пазней, летам, тыя, што пойдуць уздоўж гор. Так, каб адны і другія маглі наладзіць да зімы надзейныя стойбішчы на новым для сябе месцы. Выпадае, што менавіта мы, абадрыты, пойдзем на поўнач на чале калоны! Дарогу ведаем, акрамя таго, набылі навыкі разведчыкаў. Там у бясконцых лясах незлічоная колькасць зуброў і мядзведзяў, трэба будзе пераадолець некалькі шырокіх рэк, а пра багны і балоты я ўжо не кажу... За сваімі плячыма рад быў бы мець велетаў, тады буду спакойны за сваю бяспеку. Не раз мы ішлі ў такім парадку.

– А хто ішоў за велетамі?

– Паляне!

– А цяпер паляне таксама павінны ісці за імі? Калі так, для двух плямён гэтая дарога можа быць занадта цяжкай...

– Не крыўдуй, ваявода Радзім. Нездарма палян называюць яшчэ лэндзянамі. Яны маюць большую схільнасць да працы на полі, да вядзення гаспадаркі, чым да збройнай справы.

– Гэта праўда. Мы ведаем сваё рамяство, і, калі вы з велетамі станеце насупраць германцаў, мы хутка абнясём прыдатнае месца вастраколам і гліняным валам, каб мелі дзе схавацца, калі давядзецца адступаць...

– Гэта знявага, Радзім! Ваявода абадрыцкі не можа пакінуць гэтага без пакарання!

– Стайгневе, ты ж сам распачаў, як бы шукаў сваркі з ваяводам Радзімам, вось і знайшоў. Тваю запальчывасць і мужнасць мы ведаем, але цяпер нам патрэбны не сваркі, а разважлівасць і спакой! Таму прашу пазбягаць абразлівых слоў, тым больш што вясной вам давядзецца рушыць у дарогу разам.

– З гэтага бачна, што да халоднага мора першымі пойдуць абадрыты, за імі –велеты і ў канцы – лэндзяне. Са свайго боку, стараста Хвалім, выказваю просьбу, каб палян падзяліць на дзве групы. Адна, большая, хай ідзе за велетамі закладваць новую стаянку, другая ж, меншая, няхай застанецца з намі. Так павінна быць, бо цяжка прадбачыць, наколькі адна група аддаліцца ад другой. Тугамір казаў, што дарога зойме пару месяцаў, а мо і больш. Таму няхай тую свабодную прастору, якая з'явіцца з абодвух бакоў, зоймуць паляне, якія і аб'ядноўваюць групы.

– Добра, Дабрамыслаў! Пра наш падзел мы прымем рашэнне разам з ваяводам Радзімам, маючы на ўвазе твае слушныя парады.

– Часцібор, вы дамовіліся ўжо? Пойдзеце на чале другой калоны ці не?

– Гэта для нас высокі давер, і мы цешымся, што менавіта так будзе! Мы дамовіліся са славакамі – яны пойдуць за намі, а за імі – харваты.

– А іншыя плямёны што будуць рабіць?

– Чакаць! Пабачым, што прынясуць выправы. Калі поспех, за першымі выступяць наступныя, калі не – застанёмся там, дзе знаходзімся. Прасторы вакол дастаткова. Хопіць для ўсіх. А як убяромся ў сілу, можам пайсці на поўдзень, супраць Візантыі. Пакуль жа дамовіліся, што будзем рабіць бліжэйшай вясной і летам. Сварог сведка, што мы ўзгаднілі гэта!

– Няхай так і будзе!

– Няхай так станецца!

– Дамовіліся!

*Пераклад з польскай мовы Анатоля БУТЭВІЧА*

* Балтыйскае мора
** Чорнае мора
*** Карпаты

# Германія:

## з дзённіка адной паездкі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)*

Марына Кадол – студэнтка факультэта міжнародных адносін БДУ, Слава Паўлавец – студэнт факультэта міжнародных адносін БГЭУ, Сяргей Сыры вучыцца ў РТІ. Каця Міхнавец у гэтым годзе ўжо скончыла універсітэт, яна – хімік. Люда Клінцова і Оля Белая таксама ўжо працуюць. Таня Каменская паспела скончыць нават магістратуру БДПУ і працуе выкладчыкам нямецкай мовы. Звязаць сваё жыццё з замежнай мовай плануе і Катарына Малькова, налета яна скончыць лінгвістычны каледж. Яшчэ адна ўдзельніца нашага семінара – беларуска Алеся Матусевіч – выпускніца БДПУ (апошнія два гады дзяўчына жыве ў Германіі).

У рамках семінара асобныя дні прысвячаліся экскурсіям у Кёльн і Франкфурт на Майне. Спецыяльна для нашай групы была арганізавана двухгадзінная экскурсія па буйнейшым аэрапорце Еўропы – у Франкфурце. Свае пасадкі тут ажыццяўляюць самалёты самых вядомых авіяліній свету. Гэты горад зачароўвае сваёй архітэктурай і бурлівым жыццём. Нічога дзівацкага не будзе ў тым, калі чалавек выйдзе на плошчу і пачне спяваць або выконваць знакамітыя музычныя партыі (прычым рабіць гэта даволі прафесійна). У яго проста цудоўны настрой і ён ад усёй душы гатовы падзяліцца ім з жыхарамі і гасцямі горада. Дарэчы, гасцей – турыстаў, вельмі многа. Рускамоўных, што цікава, можна было сустрэць даволі часта. Каго – як турыста, а каго – ужо як мясцовага жыхара.



Від з гары Ларэляй

Сусветна вядомы сабор у Кёльне ўразіў сваёй велічнасцю і прыгажосцю. Паток турыстаў у сабор бясконцы. Таксама даволі цікавы завод шакалада, які адкрыты для наведвальнікаў кожны дзень. Гарачы шакалад можна пакаштаваць, як кажуць, не адыходзячы ад станка, які на тваіх вачах толькі што яго вырабіў. А вось у Peters Brauhaus (своеасаблівы дом піва) можна цудоўна паабедаць і паспрабаваць сапраўдны кёльнскі хмель.

Вядомая гара «Lorelei» была яшчэ адным пунктам нашай экскурсіі. Пікнік, арганізаваны на гэтай знакамітай вышыні, падарыў шмат станоўчых эмоцый. Тая невялікая стомленасць пасля 395 прыступак, якія мы пераадолелі, была зусім незаўважнай у такой цёплай і сяброўскай кампаніі.

Увогуле, людзі ў Германіі – вельмі адкрыты, жыццярадасны і вясёлы народ. Яны не саромеюцца гучнага смеху і прылюднага выказвання сваіх эмоцый.

На развітальны вечар вельмі прыемна было пачуць шчырыя словы кіраўніка Freundschaftkreis Mainz-Minsk, таго, хто стаў для нас сапраўдным сябрам падчас семінара, – Франца Блюма. Менавіта ён кожны дзень апекаваўся намі, перажываў і ва ўсім дапамагаў. Спадар Блюм выказаў шчырую ўдзячнасць нам – удзельнікам з Беларусі, супрацоўнікам арганізацыі, дакладчыкам, а таксама сем'ям, якія з радасцю прытулілі нас у сваіх дамах.

Ад'язджаючы дадому ў родную Беларусь, мы ехалі ў аўтобусе ўжо сапраўднай сям'ёй. А там, у Германіі, у нас з'явіліся надзейныя сябры.

Ад свайго імя і ад імя ўсіх удзельнікаў семінара хачу выказаць вялікую падзяку арганізатарам нашай паездкі, у першую чаргу арганізацыі Freundschaftkreis Mainz-Minsk, а таксама кіраўніку Францу Блюму, за арганізацыю цікавага семінара і вельмі гасцінны прыём на нямецкай зямлі.

Сардэчна запрашаем на Беларусь, з нецярпеннем чакаем наступнай сустрэчы!

*Ілья ЛАПАТО*



Помнікі св. Баніфацыю, які прынёс хрысціянства на нямецкія землі, і гарадскія «рыцары»



Да сустрэчы!

# Зняволены настаўнік і паэт

*Нарадзіўся Пятро Бітэль 6 чэрвеня 1912 г. у мястэчку Радунь, што ў Воранаўскім раёне Гродзенскай вобласці.*

Продкі Пятра Іванавіча служылі ў графаў Сапегаў і Храптовічаў. Маці, круглая сірата, служыла ў вядомага мастака Ф. Рушчыца, а пасля ў начальніка Вішнеўскай пошты. Бацька працаваў паштальёнам у Вішнеўскім паштовым аддзеле, затым яго перавялі ў мястэчка Радунь Гродзенскай губерні. Тут ён ажаніўся, і ў сям'і нарадзіўся першынец – сын, будучы паэт і перакладчык.

У час Першай сусветнай вайны сям'я, як і іншыя бежанцы, зведала нястачу, голад, гора. У пошуках лепшай долі вандравалі з 1915 г. па розных расійскіх гарадах і толькі ў 1921-м вярнуліся на радзіму. Улады буржуазнай Польшчы не прынялі бацьку на службу і яму давялося гаспадарыць на зямлі. У 1925 г. П. Бітэль скончыў з пахвальнай граматай 6 класаў у суседнім Вішневе і паступіў у Барунскую настаўніцкую семінарыю. У першы год вучобы настаўніцай польскай мовы і літаратуры была М. Багушэвіч, нявестка Ф. Багушэвіча, жонка яго сына Тамаша, якая навучыла П. Бітэля любіць і разумець літаратуру і заахвоціла яго пісаць. Далей П. Бітэль працягваў вучобу ў Віленскай настаўніцкай семінарыі імя Т. Зана. Скончыў яе ў 1931 г. Атрымаць працу па спецыяльнасці было вельмі цяжка. У 1934 г. атрымаў месца загадчыка пачатковай школы ў в. Даўгінава ля Карэліч. Працуючы тут, завочна скончыў гісторыка-філалагічнае аддзяленне Вышэйшых настаўніцкіх курсаў пры Віленскім універсітэце.

У пачатку вайны гітлераўскай Германіі з Польшчай быў мабілізаваны і накіраваны на фронт. Вярнуўшыся ў родныя мясціны, дзе ўсталявалася савецкая ўлада, працаваў настаўнікам у Вішневе, дырэктарам СШ № 2 у Валожыне. У часы гітлераўскай акупацыі жыў у Валожыне, трымаў сувязь з партызанамі. У чэрвені 1944 г. разам з сям'ёй быў вывезены ў Германію. Па дарозе ў час аварыі цягніка яму ўдалося ўцячы, знайсці прытулак у Польшчы і дачакацца вызвалення. Быў мабілізаваны ў Савецкую Армію, служыў да канца 1945 г. Пасля дэмабілізацыі настаўнічаў у Забрэжскай сямігодцы, дзе выкладаў беларускую мову і літаратуру.

Вясной 1947 г. П. Бітэль быў звольнены з настаўніцкай працы як чалавек, якому «нельга давяраць выхоўваць маладое пакаленне». Такім чынам, сям'я будучыга паэта аказалася пазбаўленай зарплаты, харчовых картак і кватэры. Спробы знайсці іншую працу былі дарэмныя.

Цяжкі перыяд жыцця падштурхоўвае да новага біяграфічнага павароту: каб выжыць, пракарміць сям'ю, Пётр Бітэль становіцца праваслаўным святаром. Служыць настаяцелем царквы ў Слонімскім раёне, а пасля ў Докшыцах, што на Віцебшчыне. У 1950 г. быў арыштаваны, а ў 1951-м завочна асуджны да 10 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах. Адбываў тэрмін у Кемераўскай вобласці, Омску, Джэзказгане, дзе працаваў на будоўлі, у медным рудніку. Пераклаў на беларускую мову і запісаў на абгортачнай паперы паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», «Гражына».

У 1956 г. са зняццем судзімасці вярнуўся на радзіму, аднак настаўніцкай працы не змог атрымаць. Пётр Іванавіч вырашае паехаць да мітрапаліта, які і накіраваў святара ў Скідзельскі раён, а затым перавёў у Петрыкаў.

З 1963-га па 1974 г. працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Вішнеўскай СШ. Завочна скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута і паралельна курсы нямецкай мовы ў Маскве. У 1970 г. цалкам рэабілітаваны.

З Вішневым звязаны яго сталыя гады, тут развіваўся, мацнеў яго паэтычны дар, тут ён чэрпаў натхненне, спасцігаў таямніцы роднай мовы. Яго творчай лабараторыяй была глыбінка, тым і адрозніваўся П. Бітэль ад сваіх калег па пяры.

Сябрам Саюза пісьменнікаў наш знакаміты зямляк стаў толькі ў 1985 г. А першыя літаратурныя спробы яго звязаны са студэнцкай парой. Друкаваўся з 1929 г. у часопісе «Шлях моладзі» пад псеўданімам «Леанід з-пад Вішнева». Першыя вершы П. Бітэля з'явіліся ў друку ў 1939 г. у Валожынскай «Іскры» і Лідскай «Уперад». Пасля вайны пісаў гістарычныя паэмы, вершаваныя аповесці пра жыццё працоўных Заходняй Беларусі. Аўтар кніг «Замкі і людзі» (1968; пра ВКЛ да Крэўскай уніі) і «Паэмы». Гістарычнае мысленне і адчуванне драматызму часу характэрны для паэм «Замкі і людзі», «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага» (1984), «Памятны верасень» і інш. Перакладаў з польскай, рускай, украінскай і іншых моў. Пераклаў на беларускую мову творы А. Міцкевіча «Дзяды», «Крымскія санеты», аповесць Ю. Крашэўскага «Хата за вёскай» (1989), творы В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Канапніцкай, Б. Пруса, Ю. Славацкага, Г. Сянкевіча, М. Лермантава, А. Пушкіна, І. Франко, Т. Шаўчэнкі, Б. Брэхта, І. Гётэ, Ф. Шылера і інш.

Памёр П.І. Бітэль 18 кастрычніка 1991 г. Пахаваны на вішнеўскіх могілках. Але жывуць, хвалююць душу яго творы. Яго лёс, шматгранны талент – прыкметны радок у гісторыі Валожыншчыны.

*Валянціна КАРАЛЁВА,*
*Алена ЖВІРКО,*
*бібліятэкары Вішнеўскай сельскай бібліятэкі Валожынскага раёна*

*Землякі ў свеце*



*Барыс БАРОЎСКІ*

# Ураджэнцы Беларусі ў арміі Андэрса падчас Другой сусветнай вайны

**(Працяг. Пачатак у № 29–35)**

## *Шарак Даніла Рыгоравіч*

Нарадзіўся 22.04.1911 г. у в. Кавальцы Маладзечанскага раёна. У 1939 г. у германа-польскую вайну быў прызваны ў польскае войска і апынуўся ў нямецкім ваенным палоне. Зімой 1939–1940 гг. уцёк з палону і пры пераходзе мяжы на савецкай тэрыторыі (у Заходняй Беларусі) быў затрыманы памежнікамі і накіраваны ў Вілейскую турму. Згодна з рашэннем суда, за незаконны пераход мяжы быў асуджаны на 1,5 года зняволення ў Вілейскай турме, затым адпраўлены для работы ў калгас у Самарскую вобласць (Расія).

Пасля нападу Германіі на СССР быў прызваны ў польскую армію на тэрыторыі СССР (г. Бузулук). Служыў вадзіцелем і кулямётчыкам у 2-м польскім корпусе. Пасля вайны ў маі 1947 г. вярнуўся дамоў у в. Кавальцы і пачаў працаваць у калгасе.

Прыкладна у гадзіну ночы 01.04.1951 г. у яго хату ўвайшлі 2 салдаты з афіцэрамі і аб'явілі аб тым, што сям'я Д.Р. Шарака высылаецца на пажыццёвае спецпасяленне ў Сібір. Былі канфіскаваны 2 хляўчукі, гумно, зерне, 2 кабаны, карова, авечкі, якія забраў калгас. Данілу Рыгоравіча забралі з жонкай Соф'яй Іванаўнай і дзецьмі (сын Андрэй 1937 г.н., дочкі Лена 1948 г.н. і Іра 1950 г.н., якая ў ссылцы памерла). З сабой амаль нічога ўзяць не змаглі, паколькі не было на машыне месца. У ссылцы з 23.04.1951 г. жылі ў п. Ягат Усольскага раёна Іркуцкай вобласці спачатку ў будынку пачатковай школы, а потым у бараку (разам з сям'ёй І.А. Козела), які пабудавалі самі ссыльныя. Даніла Рыгоравіч працаваў на будаўніцтве баракаў для ссыльных, а затым на лесараспрацоўцы. Яго жонка працавала ў брыгадзе па ўзвядзенні печаў, затым нарадзіла дачку і заставалася на хатняй гаспадарцы. Сын Андрэй працаваў у леспрамгасе памочнікам трактарыста, памочнікам машыніста, машыністам. Жылі ў цеснаце. Ежы не хапала, было галадна. З 1955 г. сталі распрацоўваць зямлю на месцы былога лесу і саджаць агародніну, бульбу. Кожны месяц ссыльныя павінны былі распісвацца ў спецыяльным журнале, за імі быў наладжаны пастаянны кантроль.

Сям'я вярнулася дамоў на Іллю, 02.08.1958 г. Па вяртанні жылі ў сваёй хаце ў Кавальцах. Даніла Рыгоравіч працаваў качагарам у Маладзечне ў інтэрнаце будаўнікоў па вул. Партызанская, затым у калгасе. Яго жонка працавала ў калгасе. Па прыбыцці дамоў усе адчувалі дыскрымінацыю,



*Даніла Шарак (другі справа) з ссыльнымі на лесараспрацоўцы (Іркуцкая вобл., 1953 г.)*



Верховный суд Белорусской ССР
9 апреля 1966
№ 5-10

СПРАВКА

Дело по обвинению МУРАВСКОГО Ивана Николаевича, 1931 года рождения,
пересмотрено Верховным судом БССР 11 апреля 1958
Постановление от 7 июня 1951 г. в отношении МУРАВСКОГО И. Н.
МУРАВСКИЙ И.Н. по данному делу реабилитирован. Конфискованное имущество возвратить или выплатить его стоимость.

*Даведка аб рэабілітацыі Івана Мураўскага*

уціск, цяжкасці з працаўладкаваннем, былі вымушаны ўтойваць факт знаходжання ў арміі Андэрса і сібірскай ссылцы. Даніла Рыгоравіч памёр 01.06.1979 г., а праз 10 гадоў памерла яго жонка.

*(Са слоў сына – Андрэя Данілавіча Шарака, 16.03.1937 г.н.)*

**(Заканчэнне на стар. 8)**

# Горкая праўда 30–40-х!..

Ад гісторыі нікуды не дзенешся, з ёй у хаванкі не згуляеш! А яна, як тая зебра: паласа белая, паласа чорная. Была незразумелая трагедыя: свае сваіх жа забівалі – каралі – мучылі!

15 гадоў таму супрацоўнікамі філіяла Дзяржархіва ў Маладзечне з яго тагачаснымі дырэктарам, заслужаным работнікам культуры Беларусі Р.Ф. Герасімовічам, загадчыцай аддзела Н.У. Івановай (сёння – дырэктар) у суаўтарстве з У.І. Адамушкам была падрыхтавана і ўбачыла свет незвычайная кніга. Яе трагічныя старонкі – сапраўдныя дакументы: лісты-арыгіналы нашых суайчыннікаў з далёкіх 1930–40-х. У звароце аўтараў кнігі «Памілуйце...» да чытача – крык, боль душы, спачуванне блізкім і родным, папярэджанне сучаснікам: «Не откладывай эту книгу в сторону. Она – дань памяти тем, кто погиб, попав на алтарь безжалостного Молоха, тем, кто провёл годы в лагерях и ссылках, пройдя все круги ада, приняв все мыслимые и немыслимые муки и тем, кто может только вспоминать свою далёкую Родину...».

Кніга складзена паводле архіўных матэрыялаў толькі адной вобласці Беларусі – Вілейскай (існавала з 1939 па 1944 гады). Толькі па ёй ахвярамі палітычных рэпрэсій (на 25 снежня 1940 году) сталі 1603 чалавекі. Усяго ж па Беларусі было больш за 600 тысяч скалечаных чалавечых лёсаў. Кожная раённая кніга «Памяць» мае раздзел «Вернутыя імёны». Чытаеш і здзіўляешся: наколькі ўсё было проста і цынічна. Абылгаць, у нечым абвінаваціць – і лёс чалавека быў вырашаны. І без суда, без следства, найчасцей гэта былі так званыя «тройкі». А ўсялякія звароты ў вышэйшыя інстанцыі, аж да самога ўсемагутнага Сталіна, адзываліся глухім маўчаннем-нематой. «Ворагам народа» мог стаць памешчык і батрак, рамеснік і гандляр, вайсковец і ўрач, селянін і настаўнік... У кнізе «Памяць» па Мядзельскім раёне, дзе значыцца больш за 100 ахвяраў рэпрэсій, запісана, што быў рэпрэсаваны нават... участковы з в. Будслаў! Так, па даносе сваіх жа быў рэпрэсаваны Ігнат Філіпавіч Лімораў, быццам ён агаворваў Сталіна. Яго адзіны сын памёр, так і не даведаўшыся, дзе магіла бацькі!

Менш за паўгады засталося да другога сумнага юбілею: спаўняецца 70 год, як быў нізашто арыштаваны, а потым невядома дзе расстраляны і пахаваны бацькаў бацька, мой дзед – Захар Андрэевіч. «Прыйшлі ноччу, забралі і ўсё, прапаў чалавек, нібы іголка ў стозе сена», – успамінае яго амаль 80-гадовы сын Антон. Дзедава жонка, Праскоўя, засталася адна, а на руках аж сямёра дзяцей.

Але бяда адна не бывае. Далей была страшная, крывавая вайна. Яна зноў забрала жыцці трох старэйшых сыноў: Колі, Пеці, Мішы. Чацьвёра малодшых (Антон, Дзіма, Таня і Вера) былі дзецьмі «ворага народа» аж да 1956 года, калі дзедава справа была спынена за адсутнасцю злачынства і ён поўнасцю быў апраўданы і рэабілітаваны. Цяжка дзецям без бацькі. Цяжка ім было набыць прафесію! Але кожны знайшоў свой шлях у жыцці, кожны стаў працавітым, паважаным у людскіх калектывах; і галоўнае: яны не затаілі крыўду на той лад, на дзяржаву.

З пяці раздзелаў кнігі «Памілуйце...» трэці цалкам прысвечаны настаўніку з вёскі Занарач (Мядзельскі раён) Іосіфу Шведу. Пасля публікацыі матэрыялаў аб рэпрэсіях у часопісе «Спадчына» (№ 1, 1990 год) у Маладзечанскі архіў прыехала яго дачка – Ларыса Іосіфаўна. Вось, што яна расказала: «В двери различных инстанций стучалась жена Иосифа Александровича – Анна Устиновна. Писала прошения в прокуратуру Вилейской области, с заявлением обращалась в республиканскую прокуратуру». У заяве, што захоўваецца ў справе Іосіфа Шведа яна пісала: «... Я выясняю, что Иосиф Швед отбывает наказание невиновно. На учительском совещании в Мяделе представитель обкома из Вилейки сказал, как будто Швед был контрреволюционером, но это неправда. Швед Иосиф происходил из бедной крестьянской семьи. Отец – безземельный батрак из д. Прудники, Мядельского р-на. С малых лет Швед был пастухом, но благодаря способностям к науке ему удалось окончить семилетку в Мяделе, в которую ходил за 10 км из своей деревни. Учительского образования добился своим трудом в 1934 году. В 1935 году работал бесплатно на учительской должности в школе в Поставах, т.к. среди учителей была большая безработица. В Занарочи работал 2 года. Сам из бедноты, никому не сделал никакого вреда...» «...Перед началом войны Анна Устиновна узнала, что узников Вилейской тюрьмы вывезли в Плещеницы и расстреляли. Наняли подводу и вместе с отцом матери и соседом поехали в Плещеницы... Но там они увидели жуткую картину. Трупы узников были сброшены в картофельные ямы... Всех переворачивали, плакали, но Иосифа так и не нашли... Только в 1946 году мы узнали всё, что тогда произошло. В Плещеницах расстреляли не всех, чудом оставшихся в живых погнали в глубь России, попали под бомбёжку. Кто мог – убежал и так спасся. Далее были: Турция, Италия, армия Андэрса... Поддерживать связь с отцом было небезопасно и мать была вынуждена попросить его выслать свидетельство о своей смерти. В то время Иосиф Швед уже имел два высших образования и жил в Лондоне...» Як бачым, тут лёс аказаўся добразычлівым да настаўніка з Мядзельшчыны.

А вось паэтка з Маладзечна (узроўню Ганны Ахматавай) не змагла прайсці вароты таго пекла. Яна загінула ў краі вечнай мерзлаты – на далёкай Калыме!

Вельмі шкада ўсіх, яшчэ многія маглі б быць з намі, але такім быў іх час, такім стаў іх трагічны лёс. І вялікі дзякуй усім, хто захоўвае памяць аб іх!

***Мечыслаў СТАНКЕВІЧ,***
***былы супрацоўнік архіва ў г. Маладзечна***





**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)**

***Ад рэдакцыі***. Спіс літаратуры, прыкладзенай аўтарам да працы, налічвае 42 назвы. Калі хтосьці зацікавіцца большай канкрэтыкай, то можна звяртацца да аўтара (звесткі пра крыніцы даследавання ён пакінуў у рэдакцыі, і мы іх прадаставім зацікаўленым з ягонай згоды).

Праца супрацоўніка Мінскага абласнога краязнаўчага музея была абмеркавана і ўхвалена кафедрай гісторыі Беларусі новага і навейшага часу гістфака БДУ.



*Сустрэча сяброў Згуртавання беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі (Манчэстар, 1950 г.)*



**Біяграфічная даведка.** *Барыс Бароўскі нарадзіўся ў 1947 г. у в. Рабінавая Маладзечанскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы скончыў Саратаўскае ваенна-хімічнае вучылішча (1968), Ваенную акадэмію хімічнай абароны па спецыяльнасці «Узбраенне хімічных войск і сродкі абароны» (Масква, 1974), «Інжынерная аператыўна-тактычная падрыхтоўка хімічных войск» (1978). У розных гарадах СССР займаўся навуковай і навукова-педагагічнай работай (мае 57 навуковых і навукова-метадычных прац); займаў пасады на адной з кафедр Саратаўскага вышэйшага ваеннага інжынернага вучылішча хімічнай абароны (1978–1993). Кандыдат хімічных навук, дацэнт. Удзельнік ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС (1988). Узнагароджаны медалямі СССР і Рэспублікі Беларусь.*

*Начальнік штаба Грамадзянскай Абароны Маладзечанскага раёна (1993–1995), намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама (1995–2000), выкладчык хіміі Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа (2000–2001), дырэктар Маладзечанскай санаторнай школы-інтэрната (2001–2004). Цяпер – навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея.*

*Надрукаваў каля 30 матэрыялаў самага рознага накірунку, у тым ліку і ў «КГ».*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ГЕРМА** – пад'ёмная металічная ці акаваная жалезам дубовая рашэціна, што дадаткова зачыняла праём вежы-брамы. Прыкрывала дашчаныя праёмы, падымалася і апускалася на ланцугах пад'ёмным механізмам у адведзеным для гэтага праёме брамы. Ніжнія канцы рашэцін былі завостраныя і западалі ў спецыяльныя гнёзды. Звонку часта герма засланялася пад'ёмным мостам. На Беларусі гэтую сістэму пачалі шырока выкарыстоўваць з канца XV ст. (элементы вынаходніцтва выкарыстаны ў многіх беларускіх замках, цэрквах-крэпасцях і інш.).

**ГЕРЦЫКЕ** (Герсіке, Гарцыке, Герцык) – старажытны горад, у XI–XIII стст. адзін з фарпостаў Полацкага княства. Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага пад 1209 год. Знаходзіўся на правым беразе Заходняй Дзвіны за 180 км ад Полацка і за 2 км ад сённяшняга латвійскага паселішча Ерсіка. Герцыке, як і Кукейнос, з X ст. пачалі засноўвацца латгаламі і палачанамі-крывічамі, былі княствы факторыі і ўтваралі падуладную Полацку Латгалію. У XIII ст. яе заваявалі крыжакі і ў 1274 г. заснавалі крэпасць Дынабург, які ў сваю чаргу зрабілі адным з фарпостаў уварвання на славянскія землі. З 1561 г. Латгалія была ў складзе ВКЛ, з 1772-га ўвайшла ў Расійскую імперыю як Дзвінская правінцыя; з 1777-га ў Полацкай, з 1796-га ў Беларускай, з 1802-га ў Віцебскай губернях. У 1920-я гады ў Латгаліі існавалі больш за 20 школ і 2 гімназіі. У 1989-м у Латвіі жыло 112 тысяч беларусаў, пераважна ў Латгаліі, Земгаліі і ў Рызе.

На месцы разрабаванага і разбуранага крыжакамі Герцыке захаваліся гарадзішча, на поўнач ад яго пасад і могільнік.

**ГЕСКІЯ** – мастакі (бацька і сын). Ксаверы Дамінік (? – 1764) быў жывапісец і гравёр. У 1733–1764 гадах працаваў у Нясвіжскім замку ў князёў Радзівілаў, дзе стварыў шэраг партрэтаў гаспадароў. У 1753-м напісаў для галоўнага алтара Нясвіжскага касцёла езуітаў карціну «Тайная вячэра», фрэскі ў ім. Адзін з аўтараў дэкарацый для «камедыенгаўза» ў Нясвіжы, узораў для габеленаў, якія ткаліся на мануфактурах у Карэлічах, Нясвіжы і Міры. Юзаф Ксаверы – прыдворны жывапісец Радзівілаў у Нясвіжы ў 2-й палове XVIII – пачатку XIX стст. Ён стварыў партрэты Міхала, Урсулы, Ганны, Гераніма Радзівілаў, караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Афармляў памяшканні нясвіжскага дамініканскага касцёла і замка. Ёсць думка (у прыватнасці, Ул. Сыракомлі), што ён намаляваў шэраг карцін і для Стаўбцоўскага дамініканскага касцёла. Выязджаў для творчых работ у Брэст і ў іншыя мясціны. Навучаў прыгонных мастакоў Мікалая, Андрэя і Канстанціна.

# Балада пра гаршчок

Перадзім'е 1926 года. З дрэваў абляцела лісце. Па начах зямля змярзаецца і цвярдзее. Але не гледзячы на холад і непагадзь, у багністым долу паміж вёскамі Вялікай і Малой Гарожай у Асіповіцкім раёне таўкуцца дзясяткі, а мо і сотні людзей: рыюць канавы, адводзяць брудную балотную ваду, выймаюць чарназём да пяску, выемкі ж засыпаюць пяском, будуюць насып. Аніякіх машын няма – толькі рыдлёўкі, тачкі ды конныя калёсы. Гэта ідзе будаўніцтва чыгуначнай лініі Асіповічы–Магілёў, ранняй ластаўкі бурнай і вірлівай эпохі індустрыялізацыі.

У адным месцы паміж двума гразкімі ўчасткамі трапілася выспачка трывалага сухога грунту. Яе таксама трэба было перакапаць, каб разраўняць дол для будучага насыпу. Зямля тут была вельмі цвёрдая, рабочыя ўзяліся за ламы, пачалі дзяўбсці пясчана-гліністы грунт.

Раптоўна лом аднаго з будаўнікоў без супраціўлення праваліўся пад зямлю. Гэтае месца абкружылі астатнія рабочыя, цікавяцца, што здарылася. Вось ужо вырылі глыбокую яму, з яе выцягнулі вялікі, пабіты ломам незвычайны гаршчок... Частка гэтай карчагі, у якую трапіў лом, зараз жа пасыпалася чарапкамі пад ногі. Кавалкі і смецце з зямлі ніхто не збіраў. Адзін з рабочых, малады хлопец па прозвішчы Халмоўскі, летась скончыў сямігадовую чыгуначную школу. Ён там быў сябрам краязнаўчага гуртка. Цяпер на ўсялякі выпадак вырашыў прынесці рэшткі карчагі свайму былому настаўніку Аляксандру Гаўрылавічу. Той, вядомы цяпер як краязнаўца Алесь Немцаў, пераправіў знаходку ў Акадэмію Навук у Мінск. Там вызначылі, што гаршчок мае ўзрост больш за тры тысячы год. Такім чынам, на ўсе археалагічныя карты быў нанесены помнік – могілкі сярэднедняпроўскай культуры эпохі бронзы каля вёскі Гарожа.

Прайшлі гады, праляцелі віхуры XX стагоддзя. Навука зноў вярнулася да археалагічных пошукаў пасля вайны. Украінскі навуковец Іван Арцеменка, спецыяліст па эпосе бронзы, працуючы над кнігай «Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы» рабіў вялікія раскопкі старажытных могільнікаў у сучаснай Гомельскай вобласці. Археолаг са сваімі паплечнікамі цягам некалькіх гадоў прыязджаў да месца даследаванняў на машыне. Аднойчы, у пачатку лета 1961 года, навукоўцы вырашылі наведаць і помнік каля вёскі Малая Гарожа.

Разведка на полі каля чыгункі засталася ў памяці мясцовых старажылаў, і яны шмат год захоўваюць паданні аб гэтым выключным, з іх пункту гледжання, здарэнні.

...Аднойчы спякотным выходным днём на сенажаці, дзе варочалі валкі калгаснікі з Малой Гарожы (дзень непрацоўны, але ж сена трэба дагледзець), раптоўна ўзнікла чорная «Волга». З яе вылезла «начальства» – у капелюшах, пры гальштуках і чамусьці з рыдлёўкамі. Вяскоўцы з усіх ног кінуліся глядзець на такі цуд.

Размеркаваўшы нейкі кавалак зямлі каля чыгункі, людзі з чорнай «Волгі» пачалі капаць нешта, падобнае да акопа. Вяскоўцы, вырачыўшы вочы, тапталіся паблізу, не разумеючы, што тут робіцца. Тады старэйшы з чужынцаў, каржакаваты і лысаваты мужчына, папрасіў сялянаў: ну, прынясіце што-небудзь, вось вады, напрыклад.

Навучаныя жыццёвым вопытам, вяскоўцы пабеглі, па-першае, не да калодзежа, а ў кантору, да тэлефона, званіць «куда следует». Але ж дзень быў непрацоўны, спякотны. Там, «где следует», доўгі час не здымалі слухаўку, а потым яшчэ ніяк не маглі зразумець блытанага сялянскага дакладу: перапытвалі, патрабавалі адказаць на нейкія пытанні...

Карацей, калі вяскоўцы вярнуліся на поле, там ужо нікога не было: невядомыя зніклі ў блакітнай прасторы як чэшырскія каты, разам з чорнай «Волгай». Так і не зразумеўшы, што здарылася, калгаснікі ізноў узяліся за звычную працу.

А археолаг Арцёменка запісаў: «Трапіліся яшчэ два пахаванні, без знаходак».

Праімчаўся яшчэ ладны кавалак часу. У васьмідзесятыя гады таго ж XX стагоддзя вучні Асіповіцкай СШ №5 з настаўнікам Джанам Курчэўскім збіралі на полі каля Гарожы бульбу і знайшлі дзве каменныя сякеры. Гэта пацвярджае, што каля Гарожы быў не толькі могільнік, але і жыллё.

...А сам гаршчок знік у часы вайны. Застаўся толькі здымак. Аўтар гэтага артыкула зрабіў з яго малюнак – няхай чытач дзівіцца.

***Юрый КЛЕВАНЕЦ,***
***г. Асіповічы***



*Спевы на прасторы. Скокі да ранку*
*Фота Леаніда БАРОЎСКАГА*

**Наступны нумар выйдзе 8 кастрычніка.**
***Да сустрэчы, сябры, у наступным месяцы!***

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасной – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск,
вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26,
334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 20.09.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 1124.
Тыраж 1270 асобнікаў.